# Голас Радзімы

№ 40 (2026)
1 кастрычніка 1987 г.

ГАЗЕТА БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА ПА КУЛЬТУРНЫХ СУВЯЗЯХ З СУАЙЧЫННІКАМІ ЗА РУБЯЖОМ
(БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»)

Выдаецца з 1955 г.
Цана 4 кап.



**У канцы верасня Дом творчасці пісьменнікаў імя В. Дуніна-Марцінкевіча, што непадалёк ад горада Ракава, гасцінна прыняў сяброў з сацыялістычных краін. Перакладчыкі беларускай літаратуры з Балгарыі, Польшчы, Чэхаславакіі і ГДР, Венгрыі і Югаславіі прыехалі на першы ў Беларусі семінар, каб бліжэй пазнаёміцца з жыццём нашага народа, яго літаратурай, культурай, гісторыяй. Фотакарэспандэнт С. КРЫЦКІ сфатаграфаваў іх у дзень адкрыцця семінара. (На 7-й старонцы чытайце інфармацыю пра тое, як праходзіў семінар перакладчыкаў беларускай літаратуры).**

# ХЛЕБ—УСЯМУ ГАЛАВА

**«Хлеб — усяму галава». Гэтую старую народную мудрасць, не раз праверaную жыццём, на Беларусі можна пачуць вельмі часта. Магчыма, памятаюць яе і нашы суайчыннікі, тыя, хто правёў на гэтай зямлі дзяцінства, юнацтва. Ім, у асноўным выхадцам з сялян, словы — хлеб, сяўба, зажынкі, дажынкі не толькі добра зразумелыя, але і ў поўным сэнсе родныя. Есць, мабыць, і такія, хто зведаў працу хлебароба сам. Вось толькі хлебнае поле раней не заўсёды радавала беларускага селяніна сваім багаццем, хаця поту і працы ён укладваў у яго нямала.**

**Сёлета ўборка хлеба ўжо скончана. У рэспубліцы сабраны рэкордны ўраджай — у сярэднім больш за 35 цэнтнераў з кожнага гектара збожжавых пасеваў. І гэта нас радуе, хаця ўсе мы разумеем: трэба і магчыма дабівацца большага. Сённяшні поспех—першы крок на гэтай нялёгкай дарозе.**







**Гэтыя здымкі зроблены не толькі ў трох розных раёнах рэспублікі, але і ў розных абласцях — Гомельскай, Віцебскай і Гродзенскай. На іх — моманты з жыцця беларускіх земляробаў, аб'яднаных агульным клопатам: хутка і якасна сабраць вырашчаны ўраджай. Руплівасць, сумленнасць — вось чым вызначаюцца сельскія працаўнікі ва ўсе часы. І сёлетні багаты ўраджай — вынік карпатлівай і мэтанакіраванай работы. Такой, як, напрыклад, у калгасе імя Леніна Гомельскага раёна, дзе зафіксавана сапраўды рэкордная ўраджайнасць з гектара — 104,6 цэнтнера.**

**НА ЗДЫМКАХ: Сцяпан БЕЛІКАЎ — галоўны аграном калгаса імя Леніна Гомельскага раёна. Ён — адзін з ініцыятараў укаранення інтэнсіўных тэхналогій на Гомельшчыне; уборка ячменю ў саўгасе «Свабода» Чашніцкага раёна; гэты здымак зроблены ў саўгасе «Беларусь» Гродзенскага раёна напярэдадні сяўбы азімых.**

**Фота І. ЮДАША, А. ЦАРЛЮКЕВІЧА, А. ПЕРАХОДА.**

# РАДУЮЦЬ СЁЛЕТНІЯ НАМАЛОТЫ

**АБ ВЫНІКАХ СЁЛЕТНЯЙ УБОРКІ ЗБОЖЖА Ў РЭСПУБЛІЦЫ НАШ КАРЭСПАНДЭНТ ПАПРАСІЛА РАСКАЗАЦЬ АЛЯКСАНДРА СТАРАВОЙТАВА, НАМЕСНІКА СТАРШЫНІ ДЗЯРЖАГРАПРОМА БССР, НАЧАЛЬНІКА ГАЛОЎНАГА ЎПРАЎЛЕННЯ РАСЛІНАВОДСТВА.**

**— Аляксандр Міхайлавіч, як ацэньваюцца сёлетнія намалоты збожжавых і зернебабовых культур у рэспубліцы!**

— Пачну з таго, што гэта першы такі ўраджай у Беларусі. Летась было па 25 цэнтнераў з гектара, а зараз — вышэй адзнакі 35. Калі сказаць асобна пра кожную вобласць, то лідэр — гродзенцы: у іх выйшла амаль па 41 цэнтнеру збожжа з гектара. Нядрэнна папрацавалі і на Брэстчыне — каля 40 цэнтнераў. Але ў цэлым па рэспубліцы вынікі маглі быць і лепшымі. З-за паводкі не будуць наогул убірацца каля 100 тысяч гектараў пасеваў. Там проста няма чаго збіраць. Асабліва жорстка ўдарыла непагадзь па Віцебшчыне.

**— У чым жа галоўная прычына сёлетняга поспеху!**

— Так, уборку-87 на хлебным полі можна назваць паспяховай. Але гэты поспех — не выпадковасць. У яго аснове — праца. Напружаная праца.

Восемдзесят працэнтаў збожжавых вырошчвалася па інтэнсіўнай тэхналогіі. А раз павысіўся ўзровень тэхналагічнай дысцыпліны, то і рэсурсы, што выдзяляліся на збожжавае поле, далі большую аддачу. Для прыкладу можна прыгадаць калгас «Прагрэс» Гродзенскага раёна, дзе ўборка скончана з вынікам 68,4 цэнтнера збожжавых і зернебабовых з гектара.

**— Дарэчы, яго старшыня Аляксандр Дубко — член прэзідыума Беларускага таварыства «Радзіма». Некаторыя з нашых землякоў нават знаёмы з ім асабіста...**

— «Прагрэс» — адна з найбольш моцных гаспадарак рэспублікі, але, безумоўна, не адзіная ў такім родзе. Высокі ўраджай хлеба ў калгасах і саўгасах Нясвіжчыны: у многіх гаспадарках па пяцьдзесят і больш цэнтнераў з гектара. Да гэтага ў Нясвіжскім раёне пачалася падрыхтоўка яшчэ зімой: праводзіліся заняткі са спецыялістамі і механізатарамі — інтэнсіўная тэхналогія патрабуе ад работнікаў добрых ведаў у аграноміі, рыхтавалася тэхніка, насенне даводзілася менавіта да тых кандыцый, якія патрабуюцца па сучаснай тэхналогіі. І хаця ў гэтых мясцінах палегла амаль 90 працэнтаў пасеваў, са складанай сітуацыі тут выйшлі з гонарам.

**— А якія перспектывы на бліжэйшую будучыню!**

— Ніякіх новых лічбаў называць не буду. Галоўнай задачай стане — замацаваць сёлетні вынік.

**— Апошнім часам з'явіліся паведамленні пра рэкордную ўраджайнасць у Беларусі: 100 і нават ужо ёсць 104 цэнтнеры збожжа з гектара. Як мы павінны гэта ацэньваць!**

— Вельмі сур'ёзна. Так, пакуль размова толькі пра асобныя з'явы. Але назваць іх рэкордам дзеля рэкорда нельга. Тое, што цяпер вылучаецца з агульнага рада, павінна стаць заўтра нормай. Менавіта так мы разумеем прыведзеныя вамі лічбы, якімі наша рэспубліка можа заслужана ганарыцца.

Між іншым, рэкорды пастаўлены ў асноўным на палях, засеяных насеннем сартоў, выведзеных беларускімі вучонымі-селекцыянерамі. Вельмі добра зарэкамендавала сябе азімае жыта «пухаўчанка», азімая пшаніца «надзея», «бярэзіна», якія прадаставіў хлебаробам наш навукова-даследчы інстытут земляробства. Можна прыгадаць яшчэ і авёс «буг», ячмень «зазерскі-85». Таксама сарты — беларускія, вельмі добрыя. Але жыццё на месцы не стаіць, і пошукі працягваюцца.

**— А якія праблемы выявіліся ў ходзе ўборкі!**

— Праблемы ёсць, канешне. І нямала. Бо тое, што зроблена сёння, — толькі пачатак вялікай работы па перабудове сельскай гаспадаркі, павышэнню яе прадукцыйнасці. Мы радуемся сёлетнім вынікам, але яны пакуль што даволі сціплыя ў параўнанні з тым, што б хацелася мець. І таму трэба далей развіваць інтэнсіўныя тэхналогіі, вучыць людзей працаваць. Вялікія праблемы пакуль у нас з уборачнай тэхнікай: стары камбайн проста не ў стане справіцца з высокай ураджайнасцю. Зноў-такі і ахова раслін ад хвароб і шкоднікаў адстае ў многім з-за адсутнасці адпаведных сучасных прыстасаванняў і механізмаў. Адстае і сушыльная гаспадарка. Былі нават выпадкі, калі з-за гэтага гінула збожжа, што зусім недапушчальна.

**— Які ж далейшы лёс сабранага ў Беларусі ўраджаю!**

— Частку збожжа мы па плану прадаём дзяржаве. У цэлым рэспубліка з планавымі пастаўкамі ў агульнасаюзны фонд ужо справілася — на нарыхтоўчыя пункты дастаўлена больш за 1 500 тысяч тон збожжа. Забяспечыўшы сябе насеннем, гаспадаркі працягваюць адпраўляць прадукцыю звыш задання, але ўжо па павышаных цэнах.

Што тычыцца рэспубліканскіх патрэб, то сваё насельніцтва мы забяспечваем хлебам поўнасцю.

**Гутарку вяла Галіна УЛІЦЁНАК.**

ЛЮДЗІ РЭДКАЙ ПРАФЕСІІ

# ДРЭВАЛАЗЫ

Ні ў адным слоўніку вы не знойдзеце назвы гэтай прафесіі. Але тым не менш яна існуе. І цікава, што ўсе дрэвалазы працуюць на Віцебшчыне, у Глыбоцкім доследным лягсасе.

Я пазнаёміўся з імі мінулай зімой. Невялікая група мужчын, па амуніцыі падобных да альпіністаў, адпраўлялася ў доўгі паход. Іх чакалі два месяцы няспынных пераездаў і пераходаў, з начлегамі ў лясніцтвах, вясковых дамах, а часам проста на снезе каля вогнішча. Канчатковая мэта паходу — даставіць у лягсас чаранкі мачтавых соснаў, з якіх будуць закладзены новыя лясныя плантацыі.

Цяжкая гэта работа. Не кожны зможа вытрымаць двух-трохкіламетровы пераход па глыбокім снезе ад пракладзенай дарогі ў глыбіню лесу да дзялянкі з запаветнымі плюсавымі дрэвамі. А назад, акрамя амуніцыі, нясеш на спіне яшчэ і вязанкі чаранкоў, здабытых на 25—30-метровай вышыні.

Дрэвалазам можа быць моцны, смелы, спрытны чалавек. Калі дзесяць гадоў назад узнікла патрэбнасць у людзях такой прафесіі, піянерамі яе сталі альпіністы-аматары. Па запрашэнню Глыбоцкага лягсаса з Мінска прыехалі некалькі альпіністаў з інструктарам. Яны і сабралі першы ўраджай чаранкоў з плюсавых соснаў.

Але ў лягсасе разумелі, што альпіністы — не выхад. Таму была арганізавана падрыхтоўка дрэвалазаў. У мяне ў руках пасведчанне пад нумарам адзін Мікалая Лаўрыновіча. У ім гаворыцца, што Лаўрыновіч скончыў курсы па падрыхтоўцы рабочых для нарыхтоўкі чаранкоў і шышак, і яму прысвоена кваліфікацыя «дрэвалаз». Такія ж пасведчанні маюць тэхнік-лесавод Тадэвуш Ласоўскі, ляснік Уладзімір Рагоўскі, шафёр Пятро Юхневіч.

У чым жа важнасць работы гэтых людзей? Аказваецца, плюсавыя элітныя дрэвы нават для нашай, багатай лясамі рэспублікі рэдкасць. Яны складаюць селекцыйны фонд, які сфарміравалі вучоныя Беларускага навукова-даследчага інстытута лясной гаспадаркі. Скажам, у Акінчыцкім лясніцтве Стаўбцоўскага лягсаса ў квартале 41 растуць сем такіх соснаў. Глыбоцкія дрэвалазы прыязджаюць у лясніцтва, ім дапамагаюць знайсці тое месца, дзе растуць гэтыя каштоўныя дрэвы, незвычайна высокія і стромкія, быццам самой прыродай створаныя для карабельнай мачты. Кожнае з іх пазначаецца нумарам, белай паласой і агароджваецца. Каб усім было ясна: ахоўваецца дзяржавай!

Дрэвалазы падымаюцца на плюсавае дрэва і зразаюць з яго секатарам ад 50 да 100 чаранкоў. На кожным дрэве працуе адзін майстар. Чаранкі скідваюцца ўніз, дзе кіраўнік групы акуратна, каб не пашкодзіць, звязвае іх ў пукі. Адрастуць чаранкі толькі праз пяць гадоў. Так што новы паход сюды будзе не хутка. За дзень кожны дрэвалаз «апрацоўвае» па тры дрэвы. За сезон нарыхтоўваецца, у залежнасці ад ураджаю, да 20—25 тысяч чаранкоў.

Дастаўленыя ў лягсас чаранкі захоўваюцца ў пучках пры тэмпературы 0—1 градус па Цэльсію і адноснай вільготнасці 95 працэнтаў. Наступны этап селекцыйнай работы — вырошчванне прышчэпленага пасадачнага матэрыялу: на звычайныя саджанцы прывіваюцца чаранкі плюсавых дрэў. Два гады прышчэпленыя чаранкі знаходзяцца ў цяпліцах. Пасля частка іх «перасяляецца» на лесанасенныя плантацыі Глыбоцкага лягсаса, астатнія рассылаюцца па ўсёй рэспубліцы.

Праз пэўны час плантацыі пачнуць даваць насенне палепшанай якасці. Дзеля гэтага кожны год у канцы зімы і адпраўляюцца глыбоцкія дрэвалазы ў цяжкі паход. Дзякуючы ім у лягсасе цяпер ёсць амаль 150 гектараў лесанасенных плантацый, дзе растуць сасна і елка звычайныя, лістоўніца еўрапейская, бяроза карэльская. 57 гектараў ужо ўступілі ў пару пладанашэння. З гэтага насення будуць вырашчаны масівы лясоў асобага генетычнага фонду.

**В. ФЁДАРАЎ.**

*НА ЗЯМЛІ БАЦЬКОЎ*

# АКНО Ў СВЕТ

У рэдакцыю пазванілі ад Упаўнаважанага Савета па справах рэлігій пры Савеце Міністраў СССР па БССР:

— У нас у гасцях сын і бацька Рапецкія з Канады. Якаў Піліпавіч — даўні чытач «Голасу Радзімы». Хацеў бы зайсці ў рэдакцыю.

З газеты і пачалася пры сустрэчы наша размова.

— Не магу ўявіць свайго жыцця на чужыне без «Голасу Радзімы», — расчулена казаў наш зямляк. — Яна для мяне акно ў свет, акно, праз якое бачу сваю Бацькаўшчыну. З асалодай чытаю па-беларуску. Здаецца, такой прыгожай мовы і ў свеце больш няма. Ажываю пры слове «Беларусь».

Якаў Піліпавіч расказвае, што зведаў гордасць, калі ўбачыў на першай старонцы аднаго з нумароў «Голасу Радзімы» гмах новай гасцініцы. Узрадаваўся, што назвалі яе «Беларусь». У час знаходжання ў Брэсце зайшлі з сынам у магазін. Іосіф Якаўлевіч падышоў да піяніна, адкінуў века, прачытаў — «Беларусь».

— І зноў узрадаваліся мы з сынам, — весела ўсміхаецца Якаў Піліпавіч. — Добрыя рэчы робяць беларусы. Прыемна стала, што мы такія здольныя і ўмелыя. У мяне дома ёсць фотаздымак: стаю побач з трактарам «Беларусь». Зроблена фатаграфія ў Канадзе. Там фермеры ахвотна купляюць гэту недарагую і эканамічную машыну.

— Сёння раніцай у гасцініцы я прачнуўся першым, — загаварыў Іосіф Якаўлевіч, — уключыў радыё. Палілася песня «Мы, беларусы, з братняю Руссю разам шукалі к шчасцю дарог». Адразу ж пабудзіў бацьку. Разам слухалі.

— Пра тое, што я беларус, упершыню даведаўся, можна сказаць, выпадкова. Было гэта яшчэ ў першую сусветную вайну. Калі былі ў бежанстве, салдат нейкі ў бацькі спытаў, адкуль мы. Ён адказаў: «З Беларусі».

Якаў Рапецкі родам з Піншчыны, з вёскі Новы Дварэц. І цяпер жыве там сястра, іншыя сваякі, з якімі і сустракаліся нашы госці. Жыццё іх спадабалася Якаву Піліпавічу, не заўважыў ён, каб зведвалі яны нястачу, былі бяднейшымі за яго. У Брэсце хадзілі з сынам па базары. «Хапае тавараў. Усё ў вас ёсць».

Іосіф Якаўлевіч на радзіме бацькі другі раз. Упершыню пабываў тут 13 гадоў назад. Казаў, што ў Мінску прыкмячае многа новага, на вуліцах пабольшала машын, метро з'явілася.

— Усяго новага не пералічыш, — гаварыў ён. — Ва ўсіх галінах жыцця адчуваецца прагрэс. Вялікая карысць, калі людзі ездзяць адзін да аднаго ў госці, знаёмяцца, гутараць. Знікаюць непаразуменні, прадузятасць. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што на амерыканскім кантыненце паступова да лепшага мяняюцца адносіны да Савецкага Саюза. Бачаць у ім не агрэсара, а дзяржаву, якая хоча сябраваць і жыць у міры з іншымі народамі.

Якаў Рапецкі задаволены, што сын разумее і падзяляе яго добрыя пачуцці да Радзімы.

— Каля фартуха маці і на каленях у таты вывучыўся нашай роднай мове, — гаварыў пра сына Якаў Піліпавіч.

А нядаўна пацешыла дзедава сэрца ўнучка. Старыя перабіраліся на новую кватэру, пераглядалі рэчы, кнігі — не ўсё ж вартае, каб забіраць з сабой на новае месца жыхарства. Трапіў на вочы Якаву Піліпавічу Буквар, па якім вучыліся яго дзеці. Пакуль раздумваў, што рабіць з ім, унучка Шарлота папрасіла: «Пакінь, дзядуля. Я буду вучыцца».

**Д. ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКУ: Якаў РАПЕЦКІ з сынам Іосіфам у «Голасе Радзімы».**



**Што? Як? Чаму?**

# КІРАЎНІКА ВЫБІРАЕ КАЛЕКТЫЎ

Яшчэ два гады назад гэта былі адзінкавыя выпадкі. Раней, як правіла, кіраўнікі прызначаліся «зверху»—адміністрацыяй, главкам ці міністэрствам (у залежнасці ад рангу). Цяпер жа сітуацыя кардынальна змянілася. Кіраўніка выбірае калектыў на агульным сходзе з некалькіх кандыдатаў тайным галасаваннем. Выбіраюць начальнікаў цэхаў і галоўных інжынераў, загадчыкаў аддзелаў і лабараторый, дырэктараў заводаў і навукова-даследчых устаноў...

Звернемся да канкрэтных прыкладаў.

У светлагорскім вытворчым аб'яднанні «Хімвалакно» вызвалілася пасада галоўнага інжынера. Прэтэндэнтаў на вакантнае месца было двое: намеснік дырэктара па вытворчасці А. Астапенка і начальнік вытворча-тэхнічнага аддзела Г. Няфтанаў. Працуюць яны на прадпрыемстве не адзін год, і ў калектыве іх ведаюць добра. Абодва маюць вышэйшую адукацыю, дасведчаныя спецыялісты, праявілі сябе здольнымі арганізатарамі. Але каму з іх заняць пасаду галоўнага інжынера—вырашыць павінен быў сход, на які сабраліся прадстаўнікі ўчасткаў, цэхаў, аддзелаў.

Спачатку слова ўзялі прэтэндэнты. Кожны выклаў сваю праграму сацыяльнага і эканамічнага развіцця калектыву, уласны пункт гледжання на першачарговыя і перспектыўныя задачы. Потым пачалося абмеркаванне кандыдатаў. Іх характарызавалі, ім раілі, задавалі самыя розныя пытанні, падчас даволі вострыя. Па выказваннях людзей (а ўсяго выступіла каля трыццаці чалавек) можна было меркаваць, што Астапенка мае больш шансаў заняць вакантнае месца. Уласна кажучы, так і здарылася: намеснік дырэктара па вытворчасці набраў дзве трэці галасоў.

Аднак далёка не заўсёды вынікі галасавання можна прадказаць. На Мінскім падшыпнікавым заводзе, напрыклад, выбіралі начальніка аўтаматна-такарнага цэха. Адміністрацыя і грамадскія арганізацыі прадпрыемства прапанавалі тры кандыдатуры. Але калі іх пачалі абмяркоўваць, рабочы С. Аўсіевіч, наладчык з 35-гадовым стажам, вылучыў чацвёртага кандыдата—намесніка начальніка цэха Пятра Дзерашава, які і атрымаў большасць галасоў.

Дарэчы, аб працэдуры выбараў. Нейкага універсальнага палажэння няма (ды й наўрад ці яно патрэбна). На вакантнае месца гаспадарчага кіраўніка можа прэтэндаваць, па сутнасці, кожны работнік, які адпавядае фармальным патрабаванням (адукацыя, кваліфікацыя, стаж работы), што прад'яўляюцца да кіраўнікоў гэтага [illegible]у.

І яш[illegible] дзін момант. Выбіраючы кіраўніка, калектыў ацэньвае яго не па анкетных даных, а звяртае ўвагу перш за ўсё на дзелавыя і чалавечыя якасці прэтэндэнта. Паказальны ў гэтым плане сход, які адбыўся на Брэсцкім авіяпрадпрыемстве. Выбіралі начальніка наземнай службы. На пасаду прэтэндавалі два кандыдаты — А. Іванюковіч і М. Скакун. Калі меркаваць толькі па анкеце, у першага кандыдата — Анатоля Іванюковіча і вопы[illegible]актычнай работы багацейшы, і жыццё, як кажуць, ён ведае [illegible]ш. Яму 49 гадоў, вышэйшая адукацыя, член КПСС. Міхаіл Скакун маладзейшы — 37 гадоў, адукацыя сярэднетэхнічная, беспартыйны. У конкурсе анкет, напэўна ж, перамог бы першы. Аднак калектыў вырашыў інакш. Людзі працуюць з кандыдатамі побач і ведаюць, хто з іх на што здатны. Гэтае веданне не можа замяніць ні адна, нават самая падрабязная, анкета.

Калі на прадпрыемствах нашай рэспублікі толькі пачыналі практыкаваць выбарнасць кіраўнікоў, не ўсе паставіліся да гэтага аднолькава прыхільна. Ды, зрэшты, яшчэ і сёння можна чуць апаску: маўляў, рабочыя могуць памыліцца і выберуць «не таго, каго трэба» ці прагаласуюць проста за «свайго хлопца», таму трэба іх дзеянні падкарэкціраваць. Думаецца, гэтая перасцярога, якая нагадвае самы звычайны «вотум недавер'я» працоўнаму калектыву, абсалютна беспадстаўная. І вось чаму. Поўны гаспадарчы разлік і самафінансаванне, на якія пераходзіць наша прамысловасць, ставяць работнікаў у такія ўмовы, пры якіх і заработная плата, і сацыяльныя даброты калектыву цалкам залежаць ад канчатковых вынікаў працы: што зарабіў — тое і атрымаеш. Дык ці ж стануць рабочыя ў такой сітуацыі выбіраць «добранькага» кіраўніка замест настойлівага і прадпрымальнага? Наўрад ці. І гэта пацвярджае першы вопыт. Выбіраюць, як правіла, строгіх, справядлівых, сумленных і, зразумела, кампетэнтных.

Такім чынам, цяпер ужо не стаіць пытанне: назначаць ці выбіраць. Большасць галасуе за выбарнасць кіраўнікоў. І гэта не фармальны акт, не мода, а менавіта патрабаванне сённяшняга дня. На апошнім Пленуме Цэнтральнага Камітэта КПСС савецкі лідэр Міхаіл Гарбачоў падкрэсліў, што мы не справімся з задачамі перабудовы, калі не будзем цвёрда і паслядоўна весці лінію на дэмакратызацыю. У гэтым і заключаецца сэнс пераменаў, якія адбываюцца зараз у нашай краіне.



**Мінск. На Свіслачы ў раёне праспекта Машэрава.**

**Фота У. ВІТЧАНКІ і А. САНЦОВА.**

**ПО СТРАНИЦАМ ИЗДАНИЙ НАШИХ СООТЕЧЕСТВЕННИКОВ**

# ПРАЗДНИК В АРРОВ-ПАРКЕ

*Наши постоянные читатели хорошо знают о том, как активно проводят культурно-просветительную работу общества и клубы соотечественников в США. Все они объединены вокруг прогрессивной газеты «Русский голос». Неподалеку от Нью-Йорка наши соотечественники еще в сороковые годы создали свой своеобразный культурный центр — место отдыха и проведения различных мероприятий — Арров-парк. Ежегодно газетой «Русский голос» в Арров-парке проводится русско-белорусский день. На этот праздник приглашаются и гости из Советского Союза. В этом году он проходил по расширенной программе и отмечался не только в Арров-парке, но и в Кливленде, Чикаго. На него была приглашена делегация Советского общества «Родина», в состав которой входили и представители нашей республики. Возглавлял делегацию народный артист СССР, главный режиссер Малого театра Союза СССР Владимир Андреев. Празднества были приурочены к 70-летию газеты «Русский голос», она посвятила им большую статью, краткое изложение которой мы предлагаем вашему вниманию.*

**После возложения цветов к памятникам Т. Шевченко, У. Уитмену, А. Пушкину и Я. Купале, которые установлены в Арров-парке, гости из СССР дали небольшой концерт. Виктория Мазур, солистка Минского театра музыкальной комедии, заслуженная артистка БССР прекрасно исполнила несколько белорусских, украинских и русских народных песен. Покорил присутствующих своим голосом солист Москонцерта Евгений Поликанин.**

**Владимир Андреев рассказал собравшимся о переменах, происходящих сейчас в Советском Союзе, в частности, в театральной и культурной жизни страны. Член делегации Аркадий Русецкий ответил на многочисленные вопросы американских белорусов о сегодняшней жизни в Белоруссии.**

**Утром делегация Общества «Родина» выехала на миниавтобусе в сопровождении редактора «Русского голоса» Павла Ветрова в Кливленд.**

**На следующий день делегацию из Советского Союза принимали у себя в гостях местные белорусы. И опять разговоры, расспросы: «Как там на Родине, в родной Белоруссии?..»**

**Артисты из СССР выступили с небольшим концертом, который был встречен зрителями очень тепло и сердечно.**

**Еще через день гостей из Советского Союза встречали уже в Чикаго, в помещении Русского культурного центра. Джун Мека, Пелагея Трушинская, Павел Лютка и другие активисты центра организовали и прекрасно подготовили банкет и концерт. На нем присутствовали настоятель Русской православной церкви Святого Вознесения в Чикаго Владимир Кондратенко, редактор прогрессивной литовской газеты «Вильнис», выходящей в Чикаго, Джон Якубка, редактор нью-йоркской газеты «Украински вести» Михаил Ганусяк, представители местного Общества американо-советской дружбы.**

**Представитель Русского культурного центра Пелагея Трушинская краткой торжественной речью открыла праздничный банкет.**

**Затем выступил редактор газеты «Русский голос» Павел Ветров. Он напомнил собравшимся, что это уже второй в этом году приезд советских артистов в Чикаго, организованный газетой.**

**Руководитель делегации Общества «Родина» Владимир Андреев поблагодарил собравшихся за столь теплый прием, передал горячий привет советских людей соотечественникам, живущим за океаном и не забывающим свой родной язык, культуру, обычаи.**

**Газета выразила большую благодарность Обществу «Родина», приславшему замечательных артистов, что способствовало успешному проведению русско-белорусского дня в США.**

# ШЛЯХАМ ЎМАЦАВАННЯ СУВЯЗЕЙ

Значнай падзеяй культурнага жыцця рэспублікі стаў семінар замежных перакладчыкаў беларускай мастацкай літаратуры. Ён пачаўся 16 верасня і працягваўся амаль два тыдні. Сярод удзельнікаў семінара прафесар Карлава універсітэта ў Празе В. Жыдліцкі, які выступіў з сур'ёзнымі манаграфічнымі працамі, падрыхтаваў беларускую частку слоўніка славянскіх літаратур, Найдан Вылчаў, нястомнай працай якога створана цэлая бібліятэка беларускай паэзіі на балгарскай мове, Пенка Кынева з Балгарыі. У яе творчым арсенале пераклады твораў К. Чорнага, І. Мележа, В. Быкава, У. Караткевіча, І. Навуменкі, Б. Сачанкі, В. Казько. Менавіта П. Кыневай абавязаны мы тым, што балгарскі чытач адным з першых за мяжой пазнаёміўся з кнігай А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка «Я з вогненнай вёскі...». Перакладчык і навуковец Норберт Рандау шмат карыснага зрабіў для прапаганды ў ГДР даваеннай беларускай літаратуры, ён — укладальнік анталогіі беларускага апавядання, перакладаў аповесці В. Быкава і А. Кудраўца. Часта выступае з рэцэнзіямі асобных твораў нашых пісьменнікаў, з агляднымі артыкуламі па праблемах развіцця беларускай літаратуры.

Сярод гасцей—вялікі знаўца рускай, украінскай і беларускай літаратуры прафесар Варшаўскага універсітэта Фларыян Няўважны. Ён даследаваў творчасць А. Чэхава, У. Маякоўскага, Л. Украінкі, І. Эрэнбурга, Я. Купалы, І. Мележа, Я. Брыля. У яго перакладзе загучалі па-польску вершы М. Танка, П. Панчанкі, Р. Барадуліна, М. Стральцова, А. Разанава, У. Някляева, іншых паэтаў старэйшага пакалення і больш маладых.

Як добра знаёмага, сустрэлі на беларускай зямлі югаслава Мамчылу Джэркавіча. У яго творчым арсенале — пераклад зборніка паэзіі М. Танка, ён — укладальнік, адзін з перакладчыкаў кнігі А. Куляшова «Беларускі бераг», па яго ініцыятыве і пад яго рэдакцыяй у Бялградзе выйшла нядаўна аповесць В. Быкава «Знак бяды», а цяпер калектыў аўтараў працуе над перакладам анталогіі беларускай паэзіі XX стагоддзя.

Праграма семінара была складзена з такім улікам, каб госці змаглі бліжэй пазнаёміцца з жыццём рэспублікі, з пісьменнікамі і іншымі дзеячамі культуры Беларусі, удасканаліць свае веды ў беларускай мове, літаратуры, гісторыі. Удзельнікі семінара праслухалі лекцыі «З гісторыі беларускай літаратурнай мовы», «Асноўныя этапы развіцця беларускай літаратуры (дакастрычніцкі перыяд), «Беларуская літаратурная мова на сучасным этапе развіцця», «Беларуская проза на сучасным этапе», якія прачыталі вядучыя вучоныя рэспублікі. Акрамя лекцый, госці мелі цікавыя гутаркі з пісьменнікам Янкам Брылём, са старшынёй Дзяржкамвыда БССР М. Дзяльцом, наведалі майстэрні беларускіх мастакоў М. Савіцкага і В. Шаранговіча, пабывалі ў сельскіх гаспадарках Міншчыны і Маладзечаншчыны, зрабілі экскурсію па памятных мясцінах Беларусі.

На заканчэнне семінара ў мінскім Доме літаратара адбыўся вялікі інтэрнацыянальны літаратурны вечар з удзелам гасцей і вядомых беларускіх пісьменнікаў.

# ЗАЧАРАВАНЫ ПАЭЗІЯЙ ПУШКІНА







Міхаіл Вецік — мастак-афарміцель кніг. Шырока вядомыя яго ілюстрацыі да аповесці В. Быкава «Здрада», рамана аб жыцці Бетховена А. Аменды «Апасіяната», рамана Э. Хемінгуэя «Па кім звоніць звон», М. Стральцова «Цень ад вясла», Г. Пашкова «Дзяўчына з блакітным мячыкам». Гэтыя і многія іншыя работы мастака былі прадстаўлены на апошняй рэспубліканскай выстаўцы кніжнай графікі.

Міхаіл Вецік з тых, хто даўно і назаўсёды зачараваны паэзіяй вялікага Пушкіна. У яго майстэрні можна ўбачыць дзесяткі ілюстрацый да вершаў і паэм паэта, яго партрэты. Зробленыя ў розныя перыяды, гэтыя работы аб'ядноўваюцца ў серыі. Прапануем вашай увазе апошнія графічныя творы М. Веціка (яны выкананы ў рознай тэхніцы) з серыі «Мой Пушкін».

## ПАШЫРАЮЦЦА ГРУЗІНСКА-БЕЛАРУСКІЯ ЛІТАРАТУРНЫЯ КАНТАКТЫ

# НА МОВЕ СЯБРОЎСТВА

Гісторыя грузінска-беларускіх культурных і літаратурных сувязей была распачата яшчэ ў эпоху Кіеўскай Русі, у часы Ефрасінні Полацкай і Кірылы Тураўскага. У беларускай літаратуры першыя звесткі пра грузінаў змяшчаюцца ў «Хаджэнні ў Царград і Іерусалім» Ігнацыя Смаляніна (канец XIV стагоддзя). Творы Кірылы Тураўскага і Сімяона Полацкага былі перакладзены грузінскім паэтам — царом Арчылам і яго сынам, паплечнікам Пятра І — Аляксандрам Баграціёні. Арчыл і Сімяон Полацкі мелі перапіску і нават былі асабіста знаёмыя.

У канцы XVIII стагоддзя ў склад Расійскай дзяржавы ўвайшла Беларусь, а на пачатку XIX — Грузія. Пашырыліся кантакты паміж народамі, якія разам вялі барацьбу супраць самадзяржаўя.

У 30-х гадах XIX стагоддзя на беларускай зямлі пабываў грузінскі паэт і дзяржаўны дзеяч Грыгол Арбеліяні. Беларускі паэт-рэвалюцыянер Франц Савіч быў сасланы ў салдаты на Каўказ — у Грузінскі лінейны батальён, а Янка Лучына пачынаў у Тбілісі працоўную і творчую дзейнасць.

Але толькі ў паслякастрычніцкі час грузінска-беларускія літаратурныя сувязі набылі пастаянны характар, сістэмнасць і мэтанакіраванасць. Першыя непасрэдныя кантакты беларускіх і грузінскіх савецкіх пісьменнікаў адносяцца да 20-х гадоў нашага стагоддзя.

Значнай падзеяй у гісторыі братніх народаў была адначасовая паездка некалькіх беларускіх пісьменнікаў у Грузію і грузінскіх — на Беларусь у 1935 годзе. І. Абашыдзе, Т. Табідзе, С. Чыкавані і некаторыя іншыя грузінскія пісьменнікі прымалі ўдзел у рабоце III пленума СП СССР, які праходзіў у Мінску ў 1936 годзе. На старонках грузінскіх газет і часопісаў з'явіліся ў той час творы Я. Купалы, Я. Коласа, А. Александровіча, А. Дудара, а ў беларускай перыёдыцы друкаваліся творы Г. Табідзе, Т. Табідзе, І. Масашвілі і іншыя. Часопіс «Узвышша» знаёміў сваіх чытачоў з творчасцю грузінскіх класікаў Н. Бараташвілі, І. Чаўчавадзе, А. Цэрэтэлі, Важа-Пшавела. У 1936 годзе П. Броўкам быў перакладзены раман А. Кутатэлі «Тварам у твар», а К. Чорным — раман К. Лордкіпанідзе «Далоў кукурузную рэспубліку!».

Яркая старонка беларуска-грузінскіх культурных сувязей — удзел беларускіх літаратараў у V юбілейным пленуме СП і ў святкаваннях 750-годдзя славутай паэмы Ш. Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры», якія праходзілі ў снежні 1937 года ў Тбілісі.

Спецыяльна да юбілею Я. Купала напісаў верш «Сонечнаму Шата Руставелі», які разам з вершамі «Генацвале» і «Грузія» складаюць своеасаблівы трыпціх, прысвечаны «дружнай з сонцам краіне». Выступаў пясняр і на старонках прэсы, дзе гаварыў пра сусветнае значэнне твора Ш. Руставелі, пра дружбу народаў.

Народныя паэты Беларусі Янка Купала, Якуб Колас і Пятрусь Броўка з'яўляюцца заснавальнікамі пэўнай традыцыі адлюстравання Грузіі ў беларускай савецкай паэзіі. Грузіі прысвяцілі свае вершы Максім Танк, Пімен Панчанка, Г. Каржанеўская, А. Лойка, Н. Тулупава, М. Хведаровіч, К. Цвірка і многія іншыя беларускія паэты.

Першыя с[illegible]бы ўвасаблення грузінскай тэмы ў беларускай прозе адносяцца да 30-х гадоў. У рамане «Будучыня» Э. Самуйлёнак адлюстраваў барацьбу за ўстанаўленне Савецкай улады ў Грузіі. Вобразы прадстаўнікоў грузін[illegible]а народа стварылі П. Глебка (во[illegible], С. Арджанікідзе ў драматычнай паэме «Над Бярозай-ракой»), І. Мележ (у апавяданні «Сустрэча» і рамане «Мінскі напрамак»), В. Быкаў (у аповесцях «Пастка» і «Здрада»), К. Губарэвіч і І. Дорскі (у п'есе «Алазанская даліна»), А. Карпюк (у апавяданні «Мімоза»), В. Карамазаў (у апавяданні «Летняе пажоўклае лісце») і іншыя.

Шырока распрацоўваецца беларуская тэматыка ў грузінскай літаратуры. У выніку наведвання Беларусі К. Лордкіпанідзе напісаў цыкл навел «Бяссмерце». Значнае месца занялі беларускія матывы ў творчасці Р. Гвятадзе (цыкл вершаў «У Беларусі»), Х. Берулава (паэма «Хвалі Нёмана»), Д. Івардава (цыкл вершаў «Брэст — подзвіг і смутак»).

У часы Вялікай Айчыннай вайны на беларускай зямлі мужна змагаліся і грузінскія пісьменнікі. На Віцебшчыне ў барацьбе з фашыстамі загінуў паэт М. Гелавані. Асабіста перажытае ў тыя віхурныя гады знайшло адлюстраванне ў аповесці А. Каландадзе «Дні ў Брэсцкай крэпасці», у аповесцях і апавяданнях Д. Квіцарыдзе, у зборніку яго вершаў «Дарога», а таксама ў раманах «Бывайце, глухія лясы!» і «Помнікі зямлі не ў цяжар».

Асабліва сталі плённымі ўзаемныя кантакты беларускіх і грузінскіх пісьменнікаў, іх перакладчыцкая дзейнасць у апошнія дзесяцігоддзі. У прыватнасці, на грузінскай мове выйшлі: «Выбранае» Я. Купалы, раманы І. Мележа «Подых навальніцы», П. Броўкі «Калі зліваюцца рэкі», І. Шамякіна «Глыбокая плынь», аповесці В. Быкава «Абеліск», «Дажыць да світання», «Сотнікаў», «Знак бяды» і В. Зуба «Таямнічы надпіс». Убачылі свет зборнікі «Беларускія апавяданні», «Беларуская савецкая паэзія», «Беларускія савецкія паэты», зборнік вершаў А. Разанава «Вандроўны горад», а таксама першая двухмоўная кніжка паэзіі «Шчаслівы дзень».

З пачатку 60-х гадоў у Беларусі набылі сістэмнасць пераклады з грузінскай. Пра гэта сведчаць раман Ц. Данжашвілі «На Алазані», зборнік апавяданняў «Горны вадаспад», кніга выбраных вершаў М. Гелавані «Клятва», кніга лірыкі даўняга сябра беларускага народа Х. Берулава «Лісты надзеі». Актыўна перакладаў грузінскую паэзію М. Хведаровіч. З 1966 года дзякуючы яму і А. Звонаку пабеларуску загаварылі героі бессмяротнай паэмы Шата Руставелі «Віцязь у тыгравай шкуры».

Творы літаратур народаў СССР шырока друкаваў штогодні зборнік «Далягляды», які ў 1982 годзе перадаў гэтыя паўнамоцтвы альманаху «Братэрства». Творы [illegible]зінскіх пісьменнікаў знаходзяць [illegible] на старонкі часопіса «Полымя», [illegible]штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». Альманах «Ветразь», дзіцячыя часопісы «Вясёлка» і «Бярозка» знаёмяць сваіх юных чытачоў з творчасцю іх грузінскіх равеснікаў, з творамі грузінскіх літаратараў, з народнымі ка[illegible]і. Акрамя паасобных публікацы[illegible] перыёдыцы беларускія школьнікі маглі прачытаць на роднай мове зборнік грузінскіх казак, зборнік апавяданняў пад назвай «Твае грузінскія сябры». А пазалетась яны атрымалі яшчэ два падарункі — «Грузінскія народныя казкі» і анталагічны зборнік «Дружная з сонцам» з серыі «Бібліятэка дзіцячай літаратуры народаў СССР».

Найбольш актыўна і плённа перакладаюць з грузінскай мовы Р. Барадулін, В. Нікіфаровіч, А. Разанаў, К. Цвірка, Т. Цулукідзе.

У пасляваенны час шырока вядзецца даследаванне ўзаемасувязей дзвюх літаратур. Трэба прызнаць, што вядучую ролю тут адыгрываюць грузінскія навукоўцы. Грунтоўныя даследаванні належаць С. Кекялідзе, К. Квачантырадзе, Н. Гапрындашвілі. Сярод беларускіх літаратуразнаўцаў і крытыкаў найбольш увагі вывучэнню сувязей з грузінскай літаратурай надаюць В. Нікіфаровіч, В. Рагойша і К. Цвірка.

Летась пра здабыткі і ўзаемадзеянне дзвюх братніх літаратур ішла гутарка на міжрэспубліканскай навуковай канферэнцыі «Узаемаўзбагачэнне літаратур народаў СССР (на прыкладзе грузінска-беларускай грамадскалітаратурнай садружнасці)», што праходзіла на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя У. І. Леніна. Яе ўдзельнікі, супрацоўнікі Музея дружбы народаў АН БССР і выкладчыкі Белдзяржуніверсітэта, прачыталі дваццаць змястоўных, разнастайных па тэматыцы і праблематыцы дакладаў. Пры іх абмеркаванні з задавальненнем адзначалася пашырэнне такіх з'яў, як пераклад твораў непасрэдна з арыгінала, узаемная падрыхтоўка і стажыроўка спецыялістаў - філолагаў. Было выказана нямала цікавых ідэй і прапаноў (напрыклад, аб стварэнні купалаўскага мемарыяла ў Цхалтуба), а таксама спадзяванне, што падобныя сустрэчы стануць традыцыйнымі.

Вынікі канферэнцыі, частыя асабістыя кантакты літаратараў, кнігі, што рыхтуюцца да выдання,— усё гэта дае падставы спадзявацца на далейшае плённае развіццё грузінска-беларускіх літаратурных узаемасувязей і глядзець на іх будучыню з аптымізмам.

**Уладзімір СІЎЧЫКАЎ.**

## У МІНСКУ ЗАВЯРШЫЎСЯ XII УСЕСАЮЗНЫ ФЕСТЫВАЛЬ ТЭЛЕВІЗІЙНЫХ ФІЛЬМАЎ

# НЕ ТОЛЬКІ ПАРАДНЫ ПАКАЗ

У СЯРЭДЗІНЕ верасня ў Мінску праходзіў XII Усесаюзны фестываль тэлевізійных фільмаў, прысвечаны 70-годдзю Вялікага Кастрычніка. Але маляўнічая эмблема фестывалю майстроў «малога экрана» заззяла ў нашай сталіцы за два месяцы да афіцыйнага яго адкрыцця. Тэлебачанне штодзённа знаёміла мільёны гледачоў з конкурснай і пазаконкурснай праграмай, куды ўвайшло ўсё лепшае, што створана тэлевізійнымі работнікамі за апошнія гады.

Па традыцыі на конкурсным аглядзе былі прадстаўлены ўсе асноўныя жанры тэлебачання — мастацкі, дакументальны, навукова-папулярны, дзіцячы, музычны і мультыплікацыйны фільмы. Ацэнкі ім выносіла чатыры журы, якія складаліся з аўтарытэтных работнікаў тэлебачання, кінематаграфіі, пісьменнікаў, журналістаў, крытыкаў, кампазітараў, артыстаў. Для ўзнагарод лаўрэатаў фестывалю было ўстаноўлена каля дваццаці прызоў.

Па разраду мастацкага фільма пасля папярэдняга адбору ў конкурсе прымалі ўдзел 17 стужак. Сярод іх двухсерыйная беларуская карціна «Сведка», пастаўленая рэжысёрам Валерыем Рыбаравым у творчым аб'яднанні тэлевізійных фільмаў студыі «Беларусьфільм» па аповесці Віктара Казько «Судны дзень».

У дакументальным тэлевізійным кіно за апошні час паявілася шмат палемічных, крытычна завостраных публіцыстычных карцін. На фестывалі ўдзельнічала ў конкурсе такая цікавая стужка, як «Чарнобыль: два колеры часу», знятая рэжысёрам І. Кобрыным (Украіна), якая патрабавала ад стваральнікаў асабістай мужнасці. Яна вяртае нас, гледачоў, да трагічных падзей мінулых вясны і лета, перадае напружанне і трывогу яшчэ свежых у памяці дзён барацьбы і адвагі. Гэты фільм па праву адзначаны адной з ганаровых узнагарод фестывалю.

Атрымала прыз і стужка рэжысёра Марыны Галдоўскай і аператара Аляксандра Стрэлянага «Архангельскі мужык», пастаўленая ў творчым аб'яднанні «Экран» Дзяржтэлерадыё СССР. Цікавая яна тым, што расказвае пра незвычайнага чалавека, сельскага працаўніка Мікалая Сіўкова, архангельскага мужыка, які прапанаваў новую форму гаспадарання на зямлі. Наогул Сіўкоў — чалавек неадназначны. Нездарма дырэктар саўгаса, дзе працуе гэты «мужык», гаворыць, што лепш бы яго наогул не было. Аўтары стужкі не бяруцца сцвярджаць, што метады гаспадарання Сіўкова бездакорныя. Яны разам з героямі фільма (а іх у карціне многа) раздумваюць аб эканамічных і сацыяльных праблемах сённяшняй вёскі.

Вялікі поспех на фестывалі выпаў на долю беларускіх тэлепубліцыстаў. Па раздзелу дакументальных карцін Вялікі прыз прысуджаны фільму «Тут быў Крылоў» рэжысёра Ю. Хашчавацкага (сцэнарый І. Яфрэмава), створаны Беларускім тэлерадыёкамітэтам.

На экране паказана звычайная школа з яе буднямі і праблемамі. Галерэя дзіцячых твараў праходзіць перад гледачом. Партрэты школьнікаў тыповыя і пазнавальныя. Тут няма намёку на заміляванне, лакіроўку ці рэтуш. Усё паказана строга дакументальна, праўдзіва.

Яшчэ адна асаблівасць сёлетняга фестывалю ў тым, што ён быў менш за ўсё падобны да парараднага паказу лепшых стужак. На ім ішла сур'ёзная размова аб шляхах развіцця тэлевізійнага кіно, адбыліся дыскусіі за «круглым сталом». Што фестываль быў «рабочым» і строгім, сведчыць і тое, што журы вырашыла па раздзелу мастацкіх фільмаў Вялікі прыз не прысуджаць. Прызамі ўзнагароджаны толькі два фільмы — беларускі «Сведка» і стужка студыі «Масфільм» «Міхайла Ламаносаў». У гэтых карцінах аўтары звяртаюцца да мінулага, як далёкага, так і параўнальна блізкага, дзе зноў з асаблівай сілай прагучала трагічная тэма вайны.

Пра фільм «Све[illegible]а» рэжысёра Валерыя [illegible]арава многа пісалі і да кон[illegible]рснага паказу на фестывалі. Яго прагляд чакалі з асаблівай цікавасцю. Можа таму, што гэта стужка быццам бы вырасла з сучаснай дакументальнай прозы аб [illegible]лікай Айчыннай вайне. [illegible] арганічна ўвабрала ў сябе падзеі пасляваеннага дзяцінства падлетка, суд над здраднікамі Радзімы і ўнутраны свет самога падлетка. Адзначаючы ўсе гэтыя вартасці стужкі, журы аднагалосна прысудзіла карціне адзін з галоўных прызоў фестывалю.

Шматсерыйны гісторыка-біяграфічны фільм «Міхайла Ламаносаў» рэжысёра А. Прошкіна расказвае аб жыцці вялікага рускага вучонага, паэта, мастака, грамадскага дзеяча. Наогул складанасць пастаноўкі фільма біяграфічнага жанру заключаецца ў тым, што жыццё героя паказваецца на фоне гістарычных падзей Расіі працяглага часу. Аўтарам удалося справіцца з гэтай нялёгкай задачай.

На фестывалі тэлевізійных фільмаў, акрамя вышэйназваных стужак, многія работы былі адзначаны ўзнагародамі, прызамі і ганаровымі дыпломамі журы і грамадскіх арганізацый. Так, спецыяльным прызам і прэміяй за рэжысёрскі дэбют адзначаны А. Цабадзе за фільм «Пляма» (Грузія). Лепшай мужчынскай роляй названа работа Алега Даля ў тэлефільме «Водпуск у верасні», пастаўленым рэжысёрам Віталіем Мельнікавым па п'есе Аляксандра Вампілава «Паляванне на качак». Прызам горада-героя Мінска адзначаны тэлефільм «Дарагі Эдзісон».

Адшумелі фестывальныя хвалі эфіра. Свята тэлевізійнага кіно скончылася. Шмат падзей, сустрэч умясціў у сябе гэты напружаны тыдзень. Падведзены вынікі, раздадзены прызы і ўзнагароды. Раз'ехаліся шматлікія ўдзельнікі і госці тэлевізійнага свята. Праводзячы іх, мы гаварым: «Да пабачэння! Да новых сустрэч на экране!»

Яўген КРУПЕНЯ.

*ЗНАЁМІМ З ТВОРЧАСЦЮ МАЛАДЫХ*

# ПОСПЕХ—ГЭТА ЗДОЛЬНАСЦЬ І ПРАЦА



Яму 32 гады. За плячамі — вучоба ў музычнай школе, Маскоўскай кансерваторыі, асістэнтуры, паспяховы ўдзел у васьмі музычных конкурсах. Два з іх былі асабліва адказныя і цяжкімі — гэта Міжнародныя конкурсы ў Японіі і імя П. Чайкоўскага ў Маскве. На абодвух саліст Белдзяржфілармоніі піяніст Аляксандр Цалякоў стаў лаўрэатам. Аўтарытэт, прызнанне відавочныя. Вось так, пераадольваючы доўгі рад ступеняў, падняўся ён да вышынь сваёй прафесіі. Цяпер, напэўна, можна было б расслабіцца і «спачываць на лаўрах» — клас у кансерваторыі, вучні, высокі ўзровень выканаўчага майстэрства... Але піяніст рашуча не жадае спыніцца на гэтым. За год, які прайшоў з пераможнага для яго VIII Міжнароднага конкурсу імя Чайкоўскага, А. Цалякоў паспеў пераканаўча даказаць сваю прыналежнасць да ліку актыўна канцэртуючых піяністаў, якія прапагандуюць музычную класіку. Вернасць гэтаму «рыцарскаму ордэну» не абяцае музыканту лёгкай славы і хуткай папулярнасці, таму што масавыя музычныя прыхільнасці сёння на баку лёгкіх жанраў, а моладзь узята ў палон «рокам». Іграць Бетховена і Шапэна — значыць у многім плысці супраць цячэння, нярэдка мірыцца з паўпустой залай. Але піяніст верыць, што чым больш і часцей гучыць сур'ёзная музыка, тым шырэй кола яе прыхільнікаў.

— Лёгкія жанры, поп- і рок-музыка памагаюць адпачыць, — гаворыць Аляксандр. — Людзі, якія аддаюць перавагу толькі такой музыцы, многае страчваюць. Класіка ж — невычэрпная крыніца чыстых, узвышаных думак і пачуццяў, гэта перажыванні найвялікшага напружання і напалу. Творы вялікіх кампазітараў — Баха, Моцарта, Шуберта і многіх іншых і сёння блізкія нам абуджальнай сілай да духоўнай дасканаласці.

Каб захапіць слухача п'есамі, якія выконвае, піяніст павінен не толькі валодаць віртуознай тэхнікай, моцнай воляй, але і быць яркай асобай, таму што шаблон і стэрэатып несумяшчальныя з мастацтвам. За раялем А. Цалякоў не дэманструе «вулканічных страсцей», «стыхійнай эмацыянальнасці» і іншых падобных эстрадных прыёмаў. Наадварот, поўнасцю падпарадкоўвае ўсе выканаўчыя сродкі нялёгкай мастацкай задачы — раскрыць вобразны свет твора, услухацца ў аўтарскую інтанацыю і дакладна перадаць яе, як бы «адсоўваючы сябе ў цень». Тады ўласныя пачуцці гучаць ва ўнісон з творам і ўс[illegible]ымаюцца як ажыўленне т[illegible] што сам аўтар «зашыфраваў» на паперы з дапамогай нотных знакаў. Вядомая польская піяністка Галіна Чэрны-Стэфаньска вызначыла творчую манеру ігры Цалякова словамі «лірычны інтэлектуалізм».

Здольнасці плюс праца — гэта вечная і, напэўна, адзіная формула сапраўднага поспеху. Яна пацвердзіла сваю непахіснасць і праз год пасля конкурсу імя Чайкоўскага на канцэрце піяніста ў зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі: выступленне яго запомнілася як яркая мастацкая з'ява.

Вельмі рознымі, са сваім непаўторным светам, своеасаблівым рытмічным пульсам, настроем паўсталі ў выкананні Цалякова кампазітары Шапэн, Шуман, Ліст. З вялікай ступенню дакладнасці і пазнавальнасці перададзены піяністам сучасны свет, сучасныя рытмы, урбаністычная пейзажнасць санат І. Лучанка і Р. Шчадрына.

Удзячнымі апладысментамі слухачоў заканчвалася кожнае выступленне музыканта.

Перамога не даецца проста. Сустрэча са слухачамі — зноў і зноў адказны экзамен на пацвярджэнне прысуджаных на конкурсе ўзнагарод. З гонарам вытрымаць яго Аляксандру Цалякову ўдаецца дзякуючы штодзённай і многагадзіннай працы за інструментам, глыбокаму вывучэнню скарбаў сусветнай музыкі. А яшчэ ён цікавіцца літаратурай, мастацтвам, заўзяты плывец і аўтамабіліст. «Чым шырэй інтарэсы музыканта, — лічыць Аляксандр, — чым больш багаты яго жыццёвы вопыт, тым больш цікавай робіцца яго выканаўчая манера». Нягледзячы на маладосць, яму ёсць што сказаць сваім вучням — студэнтам кансерваторыі. Ён памагае ім асэнсаваць галоўнае: спасціжэнне музыкі — гэта праца, настойлівая, доўгая, цяжкая. І ў гэтым пастаянным руху творчасці бачыцца добрая перспектыва.

Н. ЗЛАТКОЎСКАЯ.







**Жадаючых вучыцца ў Кобрынскім прафесіянальна-тэхнічным вучылішчы народных промыслаў заўсёды многа. Гэта і не дзіўна. Тут рыхтуюць кваліфікаваных сталяроў-чырванадрэўшчыкаў, рэзчыкаў па дрэву, інкрустатараў саломкай, мастакоў-афарміцеляў, вышывальшчыц. Выпускнікі вучылішча працуюць на фабрыках сувеніраў і мастацкіх вырабаў, іншых прадпрыемствах, у калгасах і саўгасах. Сваёй прафесіяй юнакі і дзяўчаты задаволены, яна дае прастору для творчасці, прыносіць людзям радасць.**

**НА ЗДЫМКАХ: майстрамі разьбы па дрэву рыхтуюцца стаць Рыгор ЧЭПІК і Уладзімір ЦУПА; гэты ўтульны куток адпачынку ў вучылішчы абсталявалі самі вучні; драўляныя скульптуры былінных персанажаў, якія можна ўбачыць у многіх гарадскіх парках Брэстчыны, зрабілі выхаванцы вучылішча народных промыслаў. Захапляецца разьбой па дрэву і майстар вучылішча Аляксандр ШЫЛА.**

**Фота Э. КАБЯКА.**

